*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 48 (156) ◈ 1 снежня 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.

## Поступ тыдня

### «Світанку» ў Рызе 5 гадоў!

Беларускаму культурна-асветніцкаму таварыству ў Латвіі «Світанак» споўнілася 5 гадоў. З гэтай нагоды Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і рэдакцыя газеты «Наша слова» накіравалі ў яго адрас віншаванне з юбілеем і вершаваныя радкі:

*Далёка ад бацькоўскае зямлі*
*Пра родны край забыць Вы не змаглі.*
*І Вам «Світанак» асвятляе душы,*
*І кожны з Вас душою сёння дужы.*
*Да роднай мовы вернацца і любоў*
*Нясеце Вы праз ветравей гадоў.*
*І дай-Вам Бог на халадах чужыны*
*Штодзённа адчуваць цяпло Айчыны!*

ПРЭЗІДЭНТ ЗША Б. КЛІНТАН ПРЫНЯЎ ЗАПРАШЭННЕ НАВЕДАЦЬ НАШУ КРАІНУ, выказанае ў час візіту беларускай дэлегацыі ў Амерыку ў ліпені гэтага года. Візіт прэзідэнта ЗША ў Беларусь плануецца на студзень 1994 года.

*ПАСТАНОВАЙ САВЕТА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ Пётр Чаус вызвалены ад пасады намесніка міністра абароны і прызначаны начальнікам Ваеннай акадэміі Узброеных сіл краіны.*

САВЕТ МІНІСТРАЎ ПЕРАЎТВАРЫЎ Менскі радыётэхнічны інстытут у Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. Дай Бог, каб слова «беларускі» прысутнічала не толькі ў назве!

*НАДЗВЫЧАЙНЫМ І ПАЎНАМОЦНЫМ ПАСЛОМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ЛІТОЎСКАЙ РЭСПУБЛІЦЫ НАЗНАЧАНЫ Яўген Вайтовіч, які ўзначальваў з 1980 года Міністэрства культуры Беларусі. Спадар Вайтовіч пайшоў на павышэнне?*

## «ПАМІРАЦЬ ЗБІРАЙСЯ, А ЖЫТА СЕЙ»

«Паміраць збірайся, а жыта сей». Гэтую мудрую беларускую прыказку некалькі разоў згадвалі ўдзельнікі навуковай сесіі Аддзялення гуманітарных навук Акадэміі навук Беларусі, што адбылася 4 і 5 лістапада сёлета ў Менску.

Вядома ж, не пра сваю смерць згадвалі шаноўныя вучоныя — хай Бог пашле ім здароўя. Шмат каму з іх не варта думаць і пра творчае небыццё. Я дык зразумеў, што непадкупніца з касой стаіць за спінай іх альма-матэр, самой Акадэміі як установы. У гэтым пераконваешся ўжо ў вестыбюлі (так і карціць назваць яго — «сені»).

Каб гэтак, як таго Несцерку, прывезлі ў мяшку і выкінулі тут, ні за што не здагадаўся б, дзе апынуўся. Хіба паглядзеў бы на кніжкі, што тут прадаюцца,— падумаў бы: у горадзе па-над Масквой-ракой ці па-над Нявой. Ні адной беларускай кніжкі! Вымерла Акадэмія? Але некаму ж прапануюць тыя кніжкі. І нехта ж іх купляе — не трымалі б. Няма чаго прапанаваць? Але ж у недалёкай адсюль кнігарні, што называлася «Акадэмкніга», знікла нават такая вузка навуковая і нецікавая, здавалася б, чытачам кніга М. Спірыдонава «Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.)». А цяпер, калі вы чытаеце гэтыя радкі, не купіш там і цудоўную «Жаніцьбу Цярэшкі» з вядомай мізэрнымі тыражамі серыі БНТ (Беларуская народная творчасць).

Не грэх было б прадаваць і несмяротныя (пакуль што толькі для беларусаў: бо хто ж распавядзе пра іх свету?) творы супрацоўнікаў Інбелкульта, што цудам вырваныя з Леты. Самому сорамна — падказваць, што тут заўсёды павінен быць у продажы твор вялікага беларуса, які доўга працаваў тут, у Акадэміі, твор — энцыклапедыя беларускага жыцця. Няўжо таму і не дачакаўся ён ні навуковага выдання з каментарам (шмат якія з'явы беларускага жыцця праз 70 гадоў ужо трэба тлумачыць!), ні спецыяльнай навуковай сесіі? (Значную частку таго, што прадаецца ў акадэмічных сенцах, нат нельга і параўноўваць з «Новай зямлёй».) Няўжо да гэтага часу грэблівa адварочваюцца насы вучоных мужоў: беларушчына?

Але трэба памятаць, што вучоныя Акадэміі навук Беларусі павінны выконваць

*Працяг на с. 2.*

*Жыццё Таварыства*

### Сход радашковіцкіх руплівцаў

Радашковіцкае аддзяленне ТБМ імя Ф. Скарыны — самае актыўнае і прадстаўнічае ў Маладзечанскім раёне. Тут у суполку згуртаваліся сапраўдныя руплівцы, прапагандысты роднай мовы, культурнай і гістарычнай спадчыны нашай дзяржавы: настаўнікі, інжынеры, рабочыя, пенсіянеры. Па прапанове мясцовых актывістаў ТБМ Радашковіцкі пасялковы Савет шмат якім вуліцам мястэчка вярнуў іх спрадвечныя гістарычныя назвы. У Радашковічах апошнім часам былі праведзены святочныя вечарыны, прысвечаныя ўгодкам БНР, жыццю і творчасці Янкі Купалы. Шмат карыснага ў прапагандзе роднага слова здзейснена сябрамі Радашковіцкага аддзялення ТБМ, яшчэ больш запланавана зрабіць.

Пра ўсё гэта нядаўна ішла зацікаўленая гаворка ў мясцовай школе мастацтваў, дзе адбыўся справаздачна-выбарчы сход Радашковіцкага аддзялення. З дакладам выступіў намеснік старшыні рады Мікола Лінік. Сваімі думкамі, прапановамі, крытычнымі заўвагамі падзяліліся сябры Таварыства.

На сходзе абралі новую раду. Яе старшынёй стаў Мікола Ліннік, намеснікам — Генадзь Кручонак, сакратаром — Валянціна Беразняцкая, скарбнікам — Ірына Ніжанкоўская.

Перад удзельнікамі сходу з цікавым канцэртам выступіў фальклорна-этнаграфічны ансамбль беларускай песні і танца пад кіраўніцтвам Валерыя Сальніка і самадзейныя артысты.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.
г. Маладзечна.

## Беларускі час у фотааб'ектыве

*9 лістапада ў Менску пачала работу чарговая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Найбольш актыўныя грамадзяне сустрэлі дэпутатаў, сярод якіх, як вядома, большасць складаюць прадстаўнікі былой партнаменклатуры, з плакатамі, дзе выказаны рашучы пратэст палітыцы ўрада.*

*Але ля Дома ўрада з'явіліся грузавікі з міліцыяй у поўнай экіпіроўцы. Улады баяцца ўласнага народа?*






Фота Я. КАЗЮЛІ. БЕЛІНФАРМ.

Рэха

# Пра апосталаў, «аптопткаў» і права на ўласную думку

*Крыху нечакана на публікацыю рэпартажа Уладзіміра Панады «Любіць Радзіму, шанаваць родную мову» прыйшлі водгукі ад актывістаў клуба «Спадчына». Рэпартаж быў каля адной машынапіснай старонкі, а ўсе, хто адгукнуўся, памерамі сябе не абмяжоўвалі і рашуча настойвалі, каб іхняе публікавалася поўнасцю. Мы вырашылі так і зрабіць, захаваўшы ўсе асаблівасці арыгіналаў — не крануўшы ніводнай літары і коскі. Паспрабуем і на гэтым вопыце разам павучыцца.*

## На артыкул Уладзіміра Панады

20 кастрычніка ў газеце «Наша слова» змешчан артыкул Уладзіміра Панады па агляду выставы правадзімай кіраўнікам Менскага клюба «Спадчына» спадаром Анатолем Белым у менскім палацы аўтазавода на тэму: «Любіць Радзіму, шанаваць роднае слова. Дзіўна, Уладзімір Панада, што нічога станоўчага на выставе вы не знайшлі. А станоўчае ўжо сама выстава. Такая выстава ў Менску праводзілася ўпершыню. Спадара — Анатоля Белага трэба вітаць з яго выставай. Іншая справа, што выстава сціплая. Мала экспанатаў было на выставе.

Уладзімір Панада насміхаецца з слоў «Апосталы Адраджэння, а чаму? Безумоўна народны пісьменнік Васіль Быкаў сціплы чалавек, але мы беларусы называем яго Апосталам Адраджэння і гэта вельмі станоўча. У чым тут пагрэшнасць? Не падабаецца Уладзіміру Панадзе і размяшчэнне экспанатаў. Выстава гэта не табель аб рангах. Выстава ствараецца як рэжысерам кіно. Мала ў вас — Уладзімір Панада сціпласці. Гэта ўжо справа Анатоля Белага як рабіць выставу. Чаму вам не зрабіць сваю выставу. Вядома, што Вы працавалі фатографам у газеце ЛіМ і ў Вас мабыць есць шмат экспанатаў на тэму выставы. Лаіць і насмехацца з чужой працы вельмі проста. Чамуб Вам не зрабіць лепшую выставу.

Паміж экспанатаў выставы партрэт Святланы Белай не таму, што яна дачка Анатоля Белага, а таму, што яна рэдактар Амерыканска-Беларускага часопіса «Полацк», які на беларускай мове выходзіць у ЗША. Спадарыня Святлана Белая умацоўвае Беларуска-Амерыканскае сяброўства і у сваім часопісе вучыць «Любіць Радзіму, шанаваць роднае слова».

Чаму Вы — Уладзімір Панада адмаўляеце змяшчэнне на выставе партрэтаў: Наталлі Арсенневай, Ларысы Геніюш, Фабіяна Шантыра. Яны тут вельмі дарэчы. У Вас Уладзімір Панада такая непрыязнь да выставы, што Вы не знайшлі лепшага слова як «пстрыкалі фотаапараты». Чымжа Вам не ўгадзілі фатографы. А далей Вы самі сабе супярэчаце. Вы пішаце: «прысутныя ветліва пляскалі ў далоні кожному прамоўцу. З цікавасцю хадзілі ўздоўж стэндаў».

На выставе выступілі народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, наменснік генеральнага дырэктара аўтазавода В. Жыгала, наменснік старшыні прафкома, у Вас — старшыня прафкома М. Лавіцкі, гісторык — прафесар А. Грыцкевіч, супрацоўнік выдавецтва «Народная асвета»— Я. Гучок, ды іншыя. Ніхто ні слова не сказаў аб недахопах выставы і толькі Вы Уладзімір Панада ўлілі лыжку дзёгцю — каб сапсаваць справу. А магчыма Вы толькі прыкідваецеся добразычліўцам, а на самай справе вораг Беларусчыны?

Не зразумела пазіцыя і газеты «Наша слова». Трэба правяраць факты, аб якіх пішуць у газету.

Генадзь ЛАНЕЎСКІ,
ветэран вайны і працы,
інвалід Айчыннай вайны
II гр., сябр клюба
«Спадчына».

## Не ўдакладнілі «Апосталаў»

НЯДАЎНА ў «Нашым слове»(№ 42) была змешчана інфармацыя Уладзіміра Панады «Любіць Радзіму, шанаваць роднае слова» аб імпрэзе пад такой назвай выставы, якую арганізаваў з уласнай калекцыі твораў мастакоў Анатоль Белы.

Тон падачы інфармацыі, элементы аўтарскага аналізу у ёй, недакладнасць і нетактоўнасць здзівілі і ўразілі ўсіх тых, хто меў дачыненне да выставы, што вымушае даць свае ўдакладненні.

Палічыўшы пэўна за дробязь ці за памылку ў назве выставы арфаграфічны знак «—», аўтар інфармацыі замяняе яго коскай, чым змяняе, а дакладней, звужае сэнс самой выставы. Любіць Радзіму, значыць шанаваць родную мову, слова. Гэта аксіёма. За гэта не «агітуюць», як за нейкі тавар. Любоў да Радзімы пачынаецца і дастаецца ад роду. Нельга любіць Радзіму не шануючы яе мову. Трэба вяртаць сапраўдную любоў да Радзімы, якой раней надаваўся іншы сэнс. Таму ў назве не коска, а працяжнік.

Недакладна пададзены і ход вечара, прысвечанага Дню машынабудаўніка: «...пасля віншавальнага слова кіраўнікоў аб'яднання, канцэрта і дыскатэкі адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы.., наладжанай клубам «Спадчына».

Такі парадак сапраўды азначаны ў «Запрашэнні». На самой жа справе праведзена ўсё наадварот. Спачатку адбылося адкрыццё выставы, надаўшы гэтым ёй асаблівую значнасць. Потым усё астатняе. Як кажуць, а танцулькі напрыканцы. Наладжвалася ж выстава не адным клубам «Спадчына», а і гарадской Радай ТБМ, калектывам супрацоўнікаў Мінскага аўтазавода. Адкрывалася ж уступным словам сябра Менскай гарадской Рады ТБМ, старшынёй мясцовай раённай Рады ТБМ, намеснікам старшыні прафкама аўтазавода М. Лавіцкім (удакладняем: намеснікам старшыні прафкама адкрывалася, а не «выступілі намеснік генеральнага дырэктара завода В. Жыгала, старшыня прафкама М. Лавіцкі»).

На гэтыя недарэчнасці можна б было, падзівіўшыся, махнуць рукой, але самае галоўнае ў наступным, што ўражвае сваёй бестактоўнасцю, зняважлівасцю, чаго даравацъ нельга.

У інфармацыі адзначана, быццам, пісьменнік Васіль Быкаў залічыў усе выстаўленыя партрэты асоб да «апосталаў» беларускага адраджэння, у тым ліку і сябе. Але, «можна меркаваць», заўважае аўтар, як бы апраўдваючы яго, ён «не паспеў агледзіць выставу цалкам» і ўласны партрэт не заўважыў. Атрымліваецца — павярхоўна зірнуў — і да мікрафона.

Навошта ж «меркаваць», паважаныя «нашаслоўцы», была ж магчымасць нават на выставе ўдакладніць «апосталаў». Складваецца ўражанне: ці карэспандэнт адсутнічаў на мерапрыемстве, ці пісаў пад чыюсьці дыктоўку.

Таварыства запрасіла пісьменніка на выставу, а аднеслася да яго ў сваёй газеце не па-таварыску, нетактоўна. Што гэта, як не правакацыя? Ад артыкула патыхае «правдисским стилем», характэрным для газет «Мы и время», «Советская Белоруссия».

Як грубы бацька б'е дзіцяці па ручцы, каб не лезла куды не след, так ударыў Уладзімір Панада спадара А. Белага, свайго ж сябра, бескарыслівага актывіста, фаната-сабіральніка мастацкіх твораў.

Не на тую жэрдку свой партрэт павесіў, да «апосталаў» рвецца, ды й дачку «падпіхвае». Ці па-шляхецку, спадарства, у такой форме рабіць заўвагі?

Таварыства беларускай мовы не базарны калектыў па распрадажы мовы. Сярод нас сябры розныя характарам, узроўнем свядомасці. У кожнага з нас па-свойму шчыміць сэрца за Бацькаўшчыну, яе мову і гэта нас аб'ядноўвае. Ганьба, калі будзе распальвацца паміж сябрамі непрыязнасць і недавер, націскаючы на «сціпласць» і хто на колькі больш геніяльны.

Рада ТБМ г. Мінска.

*П. S. Мы настойліваем на друкаванні гэтага матэрыялу менавіта ў «Нашым слове». Калі рэдакцыя палічыць гэта не мэтазгодным, будзем настойліва прапаноўваць абмяркаваць дадзены выпадак на пашыранай Радзе рэспубліканскага ТБМ.*

*М. САВІЦКІ.*

## Супрацьпастаўленне... дзеля чаго?

ЗАЎСЕДЫ і разумеў і не разумеў аднычасова тых, хто ў, здавалася б, агульных нашых беларускіх справах імкнуцца супрацьпастаўляць састаўныя часткі аднаго цэлага — хай гэта, скажам, тычыцца тэрыторыі, пляменаў, асоб і г. д. Зразумець іх можна, калі яны такім чынам патрабуюць да сябе ўвагі ды павагі ці проста абараняюцца, выконваюць загад пэўных структур ці не вельмі разбіраюцца ў складанасцях жыцця. А як зразумець, калі яны, прадчуваючы негатыўны вынік, усё ж упарта трымаюцца сваёй актыўнай памылковай пазіцыі?

Каму не вядома, што беларусы як нацыя з'явіліся ў выніку аб'яднання плямён дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў і часткова драўлян на субстраце балтаў і падсубстраце фіна-ўграў... Кроў і іншых плямён і народаў таксама цячэ ў жылах беларусаў, але аб гэтым іншым разам. Сёння не магчыма не звярнуць увагу на тое, як даволі часта не адна нейкая пэўная асоба, а амаль цэлая абойма людзей — нацыянальных дзеячаў надта педаліруе назву-паняцце крывіч. Для іх крывічы — уся Беларусь, г. зн. што састаўная частка этноніма беларусы як бы паглынае цэлы паняційны аб'ём. Асабіста я (вяду сваё паходжанне ад дрыгавічоў) пагадзіцца з гэтым ніяк не магу. Такая ж пазіцыя (паводле маіх невялікіх даследаванняў) і ў тых, хто паходзіць з радзімічаў. Ізноў жа агульнавядома, што гісторыя сваё слова сказала — даўным даўно яна аб'яднала ўсіх нас і праз пакутлівы шлях вывяла да Беларусі і дала нам назву беларусы. І таму рабіць спробу вяртацца ў племянныя адсекі, упэўнен, не варта і недапушчальна. Тым больш, што гэта можа завесці вельмі далёка. Дарэчы, ужо сякія-такія вынікі маем праз «яцвягаў». Не будзе дзіўным, калі яшчэ штось падобнае з'явіцца. А яно можа. Даю прыклад. Як ні прыеду ў свой родны Слуцак, як ні сустрэну там глыбокапаважанага нястомнага рупліўца на ніве беларускай гісторыі і культуры Рыгора Родчанку, адразу чую: «хоць ты у роспачы крычы — наўкол кіруюць крывічы». Далей — болей. «А хіба ў дрыгавічоў няма свайго сцяга? Гэта ён лунаў над слуцкімі паўстанцамі! Дзе, як ні на Случчыне захавалася колісь аўтакефальная беларуская праваслаўная царква і г. д. і да т. п. Больш таго — нам трэба вызначыцца. Людзі ў нас ёсць і некаторыя ўжо гатовы». Імкнуся супакоіць майго старога сябра, заклікаю да стрыманасці і еднасці. Але рабіць гэта з кожным разам цяжэй. І ўсё ж ён гатовы, каб атмасфера не драматызавалася, саступіць, вядома, пры ўмове, што тыя там крывічы перастануць крывічыць і самавыхваляцца, перастануць супрацьпастаўляць свой атавізм усёй нашай Беларусі.

Пра пазіцыю, мэты і прыёмы аднаго з супрацьпастаўляльшчыкаў у нашым жыцці вельмі трапна гаворыць аўтар «Лысае гары»:

«А каб ідэй яго зыходных
Ніхто не здолеў агаліць —
Давай на «усходніх» і
«заходніх»
Адзінакроўны гурт дзяліць».

Нагодай, што прымусіла звярнуцца ізноў (ды яшчэ публічна) да разважанняў ізноў жа аб тых жа супрацьпастаўленнях, з'явіўся матэрыял у штотыднёвіку «Наша слова» ад 20 кастрычніка 93 года «Любіць Радзіму, шанаваць роднае слова». Аўтар матэрыялу У. Панада, інфармуючы чытачоў аб адкрыцці ў Палацы культуры МАЗа выставы, наладжанай клубам «Спадчына», імкнецца супрацьпаставіць Васіля Быкава апосталам беларускага Адраджэння ўсіх часоў нашай гісторыі. Больш таго, тут жа робіцца спроба прынізіць, а то і зусім паставіць пад сумнеў значэнне ўсіх адраджэнцаў цераз такі прыём, калі само слова апосталы настойліва бярэцца ў двукоссе. Далей — яшчэ дзіўней: чытачам паведамляецца, што «пісьменнік папросту не паспеў агледзець выставу цалкам, бо сярод паказаных твораў быў і яго партрэт». Цяжка паверыць у тое, што В. Быкаў стаў бы грэбаваць мажлівасцю знаходжання сваёй партрэтнай выявы ў радзе такіх волатаў духоўнага жыцця як Ф. Скарына, М. Гусоўскі, В. Цяпінскі, С. Будны, К. Каліноўскі, М. Багдановіч, Э. Пашкевіч (Цётка), Л. Геніюш, і іншыя; тым больш, што сам ён даў на гэта згоду і спецыяльна для выставы напісаў словы, якія былі там змешчаны.

Паўстае пытанне, можа, У. Панада хацеў В. Быкава супрацьпаставіць уладальніку экспанатаў і арганізатару названай выставы, кіраўніку клуба «Спадчына» Анатолю Беламу і яго дачцэ Святлане Белай — рэдактару часопіса «Полацак», чые партрэты таксама былі на выставе (такое У. Панада дапускае). Ну дык гэта іншая справа. І непатрэбная, бо тут, як кажуць, розныя весавыя катэгорыі. Але ўжо як узяўся рабіць такое (калі ў гэтым ёсць неабходнасць), дык рабі ўмела. У дадзеным выпадку спроба карэспандэнта «Нашага слова», алагічная і няўцямная — кагосьці скампраментаваць, абярнулася супраць яго ж самога. Атрымаўся своеасаблівы бумеранг.

Адначасова неабходна заявіць, што ў «Спадчыне» вядома пра прыхільныя адносіны В. Быкава да А. Белага і яго дачкі С. Белай. Зноў жа — В. Быкаў з'яўляецца ганаровым членам клуба і ганаровым сябрам часопіса «Полацак».

Думаецца, усім нам не варта рабіць праблем, там, дзе іх няма, а калі ёсць у каго якія промахі, то на іх трэба ўказваць карэктна і добразычліва. Усім нам трэба працаваць на збіранне сіл, а не на забіванне кліноў паміж адраджэнскага люду Бацькаўшчыны. І, безумоўна, заўсёды заставацца аб'ектыўнымі як ва ўспрыняцці з'яў мінуўшчыны, так і ў разуменні праяў сёняшняга дня. І калі мы не будзем фантазіраваць і выдумваць, то не станем спяваць «Старадаўняй крывіцкай пагоні», як не пісаў М. Багдановіч, а «Старадаўняй літоўскай пагоні», як поўна-аб'ёмна і абдымна да ўсёй Беларусі вырвалася з паэтавых грудзей, і не будзем які-небудзь невялікі агрэх, накшталт эфекта размяшчэння (па вызначэнню У. Панады) разглядаць праз павелічальнае шкло.

Як чытач штотыднёвіка хачу да ўсяго дадаць, што «Наша слова» павінна быць сапраўдным беларускім словам аб усіх праявах беларускага жыцця, вядома, і ў кантэксце існавання чалавецтва, а не нейкім местачковым філалагічным куточкам, больш таго — гэтакім ціхім маленькім карытцам, якое жывіцца ад невялікай колькасці (6—7 тыс.— тыраж) «аптопткаў» Беларусі.

Я. ГУЧОК,
старшы рэдактар
выдавецтва
«Народная асвета».

*АД РЭДАКТАРА. Некаторыя шаноўныя спадары сумняваюцца, ці быў У. Панада на адкрыцці выставы твораў выяўленчага мастацтва з калекцыі А. Белага. Але ж разам з рэпартажам змешчана і зробленае аўтарам фота прэзентацыі.*

*Ці падлягае ўвогуле крытыцы дзейнасць актывістаў нацыянальна-культурнага руху? Але ж крытыка (нават злаславая!)— адна з асноўных умоў самаўдасканалення, развіцця.*

*Пра «апосталаў». Нагадаем: калі ў перыяд ранняга хрысціянства так называліся ўсе вандроўныя прапаведнікі веры, то ўжо ў Новым Запавеце — толькі бліжэйшыя паплечнікі Ісуса Хрыста, і колькасць іх строга абмежаваная. Звычайна ў наш час іншым разам так называюць выдатных дзеячаў мінуўшчыны, што прайшлі выпрабаванне часам, але калі жывых, то вольна ці міжволі назва набывае іранічны характар. Гэта прыкмеціў і малады журналіст. Моладзь увогуле насцярожана ставіцца да «высокіх» эпітэтаў, але ці на карысць справы жорстка цэнзураваць яе меркаванні, нават у нечым і спрэчныя? Са свайго боку ад імя калектыву рэдакцыі хачу запэўніць тых, хто палічыў сябе пакрыўджаным, што мы высока ацэньваем іх культурна-асветніцкую дзейнасць, але гэта не ахоўная грамата ад магчымай крытыкі. Канструктыўнай, вядома.*

*Напрыканцы хацелася б звярнуць увагу на ліст у рэдакцыю пана Аляксандра Прушынскага («НС», № 46). Шляхціц — і дасталася яму ад таго ж У. Панады іранічных шпілек багата, але ж ён палічыў магчымым падзякаваць рэдакцыі за публікацыю. Адзін грамадскі дзеяч заўважыў на гэта: «Шляхецкае выхаванне!» Асабіста я скажу, што буду глядзець на гэтага чалавека зусім па-іншаму, чымся раней.*

Эрнэст ЯЛУГІН.

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

*Л. С. ІВАНОВА, С. А. КУЗНЯЕВА.*

# Беларусы: культурнае жыццё ў XIII — XVIII стст.

*Працягваем друкаваць раздзелы з вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі».*

Утварэнне ВКЛ прывяло да значных змен у культурна-гістарычных працэсах, якія развіваліся на землях Беларусі. Актыўны ўдзел насельніцтва Беларусі ў агульнадзяржаўных і культурных працэсах, высокі культурны ўзровень, колькасная і тэрытарыяльная перавага ўсходнеславянскага этнасу ў суадносінах з літоўскім і іншымі народамі садзейнічалі таму, што духоўная і матэрыяльная культура Беларусі і Украіны (так званыя «руская» культура, «руская» мова) сталі адыгрываць важную, а ў пэўных сферах культурнага жыцця ВКЛ нават вызначальную ролю. Разам з тым, утварэнне ВКЛ паскорыла і працэс выспявання культуры беларусаў.

Побыт, штодзённая працоўная дзейнасць сялянства, гарадскога насельніцтва вызначылі найбольш характэрныя рысы матэрыяльнай культуры. У разнастайных рамесніцкіх вырабах (прадметах побыту, некаторых культавых рэчах, пячатках, зброі, даспехах і інш.) асабліва выразна выяўлялася дэкаратыўна-прыкладное мастацтва народа. Прафесійных навыкаў патрабавала ювелірная справа. Ювеліры («залатары») беларускіх гарадоў валодалі майстэрствам чаканкі, інкрустацыі, залачэння, серабрэння, гравіравання, адліўкі па васковых мадэлях. Мастацкія і этнаграфічныя традыцыі беларускага народа найбольш яскрава выяўляліся ў рамёствах, звязаных з вырабам адзення, абутку, тканін. На Беларусі былі распаўсюджаны саматканыя суконныя спадніцы з клятчастай ці паласатай тканіны (андаракі), безрукаўкі, світкі. Заможнае насельніцтва нярэдка ўбіралася ў суконнае ці футравае адзенне.

Разам з традыцыйнымі рамёствамі (апрацоўкай дрэва, косці, металаў, ткацтвам, ганчарным рамяством і інш.) з'яўляюцца новыя галіны рамяства — вытворчасць шкла («шкляныя гуты»), кнігадрукаванне, выраб паперы. Першая папяровая фабрыка («паперня») узнікла ў Нясвіжы ў 60-я гады XVI ст.

Больш разнастайнымі становяцца жыллёвыя пабудовы. У сельскіх сядзібах усталёўваюцца два асноўныя тыпы планіроўкі: вяночны і пагонны двор (лінейная забудова, звычайна пад адным дахам). Буйныя беларускія гарады станавіліся важнымі палітычнымі і культурнымі цэнтрамі. Больш дасканалымі сталі абарончыя і фартыфікацыйныя сістэмы, расла тэрыторыя пасада. У некаторых гарадах, побач з замкам, другім гарадскім цэнтрам стала гандлёвая плошча, дзе размяшчаліся магістрацкія будынкі, купецкія крамы, цэрквы, касцёлы, часам — ратушы. У буйных гарадах існавалі грамадскія лазні, а ў Гародні і Бярэсці — нават водаправоды.

У сувязі з рыцарскай агрэсіяй і татарскімі набегамі ў заходніх землях Беларусі ў XIII—XV стст. былі створаны ўмацаваныя замкі. Крапасная архітэктура ўлічвала апошнія еўрапейскія дасягненні ваеннага мастацтва. Мураваныя замкі разам з драўлянымі крапаснымі пабудовамі, якія пераважалі ў прыватнаўласніцкіх гарадах і мястэчках, дазволілі стварыць абарончую сістэму агульнадзяржаўнага значэння.

У XIV—XVI стст. склаліся спецыфічныя рысы арыгінальнай беларускай архітэктуры, якая абапіралася на нацыянальныя традыцыі, творча асэнсоўвала і сінтэзавала дасягненні візантыйскага, польскага і заходнееўрапейскага дойлідства. Асноўнымі мастацкімі стылямі, у рэчышчы якіх развівалася беларускае дойлідства, былі раманскі стыль, готыка, рэнесанс. Своеасаблівымі архітэктурнымі рысамі вызначаюцца многія помнікі свецкага і культурнага дойлідства (гатычны Троіцкі касцёл у Ішкальдзі, пабудаваны ў 1472 г., абарончыя храмы, замак у Міры і інш.). Для многіх збудаванняў XVI ст. характэрна гарманічнае спалучэнне рысаў готыкі і рэнесансу.

У беларускай архітэктуры XVII ст. пераважалі мясцовыя рысы ў спалучэнні са стылем барока. У гарадскім будаўніцтве пашыраецца рэгулярная планіроўка, больш разнастайнымі сталі тыпы гарадскога жылля, адміністрацыйных і жыллёвых будынкаў. Да лепшых узораў архітэктуры XVII ст. належаць палацава-замкавыя комплексы ў Нясвіжы, Гальшанах, Смалянах, езуіцкі і бернардзінскі касцёлы ў Гародні, касцёл у в. Камаі, Мікалаеўская царква і Багаяўленскі сабор у Магілёве.

У выяўленчым мастацтве Беларусі XIII—XVI стст. важнае месца займаў іканапіс, які ў значнай ступені працягваў і развіваў візантыйскія традыцыі (абразы «Адзігітрыя Іерусалімская» з пінскай Варварынскай царквы, «Замілаванне» з Маларыты). У XV ст. з'яўляюцца першыя творы свецкага партрэтнага жывапісу (выявы Альгерда, слуцкага князя Аляксандра Алелькі). У XVI ст. пад уплывам ідэй Адраджэння партрэтны жывапіс набывае больш рэалістычны характар, у выявах гістарычных асоб назіраецца псіхалагічная паглыбленасць (партрэты біскупа Юрыя Радзівіла, слуцкай князёўны Соф'і Алелька-Радзівіл).

У XVII ст. абразы яшчэ былі найбольш папулярным і распаўсюджаным відам жывапісу, але ён ахоплівае больш шырокае кола сюжэтаў, становіцца бліжэй да рэчаіснасці. Значна пашыраецца тэматыка свецкага выяўленчага мастацтва (партрэтны, гістарычны, батальны жывапіс, нацюрморты і інш.).

У свецкай народнай музыцы выкарыстоўваліся розныя струнныя, духавыя, ударныя інструменты — бубны, жалейкі, гудкі. З XVI ст. з'явіліся цымбалы, скрыпкі, флейты. Свае інструменты мела войска ВКЛ (трубы, сурмы, дудкі). Народная музычна-песенная культура аказвала ўздзеянне на развіццё царкоўнага песнапення на Беларусі. У літургіі каталіцкай царквы разам са спевамі выкарыстоўваліся духавыя музычныя інструменты — арганы, флейты, трубы. Найбольш раннія звесткі аб беларускіх арганістах у Вільні, Бярэсці, Гародні адносяцца да першай палавіны XVI ст. Пры дварах магнатаў ствараюцца прафесійныя аркестры, капэлы.

Харавыя спевы і элементы драматургічных дзействаў былі ўласцівы масавым народным гульням, карагодам. Вельмі папулярнымі былі прадстаўленні скамарохаў, якія выступалі на плошчах гарадоў, у вёсках, у палацах і корчмах з драматычнымі і камічнымі сцэнкамі, інтэрмедыямі. Сатырычная накіраванасць іх творчасці нярэдка выклікала незадаволенасць царквы і ўлад. У XVII—XIX стст. у Смаргоні дзейнічала так званая «Смаргонская акадэмія» — школа скамарохаў і дрэсіроўкі мядзведзяў.

У канцы XVI — пачатку XVII ст. зараджаецца школьны тэатр у брацкіх школах, езуіцкіх калегіях. Спачатку ў школьных драмах выкарыстоўваліся біблейскія сюжэты, потым сталі пераважаць гістарычныя і бытавыя тэмы. З XVI ст. пашыраецца народны лялечны тэатр батлейка, адзін з найбольш сацыяльна вострых і папулярных відаў народнай творчасці.

Важнейшым дасягненнем рэнесансавай культуры на Беларусі было станаўленне беларускага кнігадрукавання, заснаванага выдатным беларускім асветнікам-гуманістам Францішкам Скарынай (каля 1490 — каля 1551 г.). Скарына нарадзіўся ў старажытным культурным і палітычным цэнтры Беларусі — Полацку, вядомым сваімі багатымі летапіснымі і кніжнымі традыцыямі. Пачатковую адукацыю атрымаў, магчыма, у родным горадзе. У 1504—1506 гг. вучыўся на філасофскім факультэце Кракаўскага універсітэта, дзе абараніў вучоную ступень бакалаўра філасофіі, а пазней — доктара свабодных навук. У 1512 г. у Падуанскім універсітэце Скарына бліскуча здаў экзамен на дыплом у «лекарскіх навуках доктара».

Першы этап кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны прайшоў у Празе. Скарына прарабіў тытанічную працу, пераклаўшы на тагачасную літаратурную беларускую мову 23 кнігі Старога Запавету. Ён дадаў да іх свае каментары, зрабіў біблейскі тэкст больш даступным для ўсіх слаёў беларускага насельніцтва. На тытульным лісце Біблії Скарына змясціў загаловак «Библия Руска выложена доктором Франциском Скориною из славного града Полоцька богу ко чти и людем посполитым к доброму научению».

Кнігі выходзілі ў 1517—1519 гг. асобнымі выпускамі невялікага фармату, аздобленыя высокамастацкімі гравюрамі, маляўнічымі віньеткамі, ініцыяламі (вялікімі літарамі). На адной з гравюр змешчаны партрэт самога першадрукара ў доктарскай мантыі, які схіліўся з пяром у руцэ над рукапісам.

Пасля 1519 г. Скарына пераехаў у Вільню, дзе ў доме бурмістра Якуба Бабіча арганізаваў першую на тэрыторыі ВКЛ друкарню. З віленскай друкарні выйшлі «Малая падарожная кніжка» (каля 1522 г.) і «Апостал» (1525 г.), якія працягвалі традыцыі пражскіх выданняў. У «Малую падарожную кніжку», акрамя Псалтыра і іншых рэлігійных тэкстаў, Скарына ўключыў астранамічныя, астралагічныя, каляндарныя, нават медыцынскія звесткі, якія маглі быць цікавымі і карыснымі для простых людзей. Пасля 1525 г. кнігавыдавецкая дзейнасць Скарыны раптоўна абарвалася. Пазнейшыя факты яго біяграфіі нам мала вядомы. Ён працаваў асабістым сакратаром і лекарам у віленскага біскупа Іаана з князёў літоўскіх, наведаў Польшчу, Прускае герцагства, Маскоўскую Русь. Апошнія гады жыцця правёў у Празе, дзе быў адным з заснавальнікаў батанічнага саду.

У прадмовах да кніг Скарыны выявіліся яго асветніцка-гуманістычныя погляды, адносіны да свецкіх навук, кніжных ведаў, гуманітарнай адукацыі, маральнага ўдасканалення чалавека. Патрыятызм Скарыны, яго імкненне актыўна садзейнічаць духоўнаму развіццю сваёй радзімы спалучаліся з глыбокай павагай да традыцый розных народаў, іх культурнай і гістарычнай спадчыны.

Усталяванню пастаяннага кнігадрукавання на Беларусі, пашырэнню яго жанравай тэматыкі спрыяла Рэфармацыя. У 50—60-я гг. XVI ст. узнікаюць першыя друкарні менавіта на землях Беларусі. Іх узнікненне было непасрэдна звязана з распаўсюджаннем Рэфармацыі — грамадска-палітычнага і рэлігійнага руху, накіраванага супраць каталіцкай царквы. Першая друкарня была заснавана ў Бярэсці ў 1553 г. пры падтрымцы галоўнага пратэктара Рэфармацыі ў ВКЛ, віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Чорнага.

У 60-я гады XVI ст. дзейнічала таксама пратэстанцкая друкарня ў Нясвіжы. У яе арганізацыі прымалі ўдзел вядомыя дзеячы Рэфармацыі Сымон Будны, Мацей Кавячынскі, Лаўрэнцій Крынкоўскі, якія рабілі спробы выдаваць кнігі кірыліцай на старабеларускай мове (збярогся толькі «Катэхізіс» 1562 г.) С. Будны, аўтар «Катэхізісу», выдатны пісьменнік-гуманіст і асветнік, падкрэсліваў неабходнасць вывучэння беларускай і старажытнаславянскай моў, развіцця школьнай справы і асветы сярод мясцовага насельніцтва.

Паплечнік Буднага, беларускі шляхціц-пратэстант Васіль Цяпінскі ў заснаванай ім у 70-я гады XVI ст. друкарні ў маёнтку Цяпіна (Полацкі павет) выдаў «Евангелле» паралельна на царкоўнаславянскай і старажытнабеларускай мовах. У сваёй прадмове да «Евангелля» Цяпінскі заклікаў да развіцця славянскіх духоўных традыцый, процістаяння паланізацыйным тэндэнцыям, адраджэння роднай мовы і нацыянальнай культуры.

Рэфармацыйныя друкарні дзейнічалі таксама ў Лоску (70-я — пачатак 90-х гг. XVI ст.) і Любчы (першая палова XVII ст.).

У канцы 60-х гг. XVI ст. у мястэчку Заблудава (Падляшша) рускім першадрукаром І. Фёдаравым і яго паплечнікам беларусам Пятром Мсціслаўцам была заснавана кірыліцкая друкарня, з якой выйшла «Евангелле вучыцельнае» (уключала розныя творы візантыйскай, балгарскай і старажытнарускай пісьменнасці) і «Псалтыр» з «Часаслоўцам» (літургічнае і вучэбнае выданне). Дзейнасць І. Фёдарава і П. Мсціслаўца, якія многае пераймалі з вопыту кніжнай і друкарскай справы на Беларусі, аказала пэўны ўплыў на далейшае развіццё беларускага і ўкраінскага кнігадрукавання.

Адначасова з узнікненнем беларускага кнігадрукавання, у якім адлюстраваліся павевы еўрапейскага Адраджэння, у ВКЛ нараджаецца свецкая новалацінская рэнесансная літаратура. Латынь у XVI ст. заставалася асноўнай мовай міжнародных навуковых, дыпламатычных і царкоўна-рэлігійных адносін у Еўропе, панавала ва універсітэцкай сістэме адукацыі. Прадстаўніком новалацінскай літаратуры быў Мікалай Гусоўскі (каля 1470 — каля 1533 г.), выдатны дзеяч усходнеславянскай культуры. Лірыка-эпічная паэма «Песня пра зубра» напісана Гусоўскім па заказе вядомага польскага дыпламата і мецэната Эразма Віталія, у якога паэт быў на службе.

**У новых гістарычных умовах вялікія змены адбыліся ў літаратуры. Распаўсюджваліся творы царкоўна-рэлігійнай і кананічнай пісьменнасці. Шырока ўжываліся казанні і павучанні «айцоў царквы» — старажытных хрысціянскіх пісьменнікаў, кананізаваных царквой: Іаана Залатавуснага, Іаана Дамаскіна, Кірылы Тураўскага і інш.**

*Працяг будзе.*

Вучымся!

Удакладнім

# Знакі прыпынку ў сярэдзіне сказа

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА.*

## Перарывы ў сказе

*Працяг. Пачатак у № 47.*

6. Калі выказнік выражаны назоўнікам ускосных склонаў або спалучэннем назоўніка з іншымі часцінамі мовы, то паміж дзейнікам і выказнікам працяжнік звычайна не ставіцца: *Летняе неба ў дымнай смузе* (В. Быкаў). *Садок у колькі вішань* (П. Броўка).

Але калі выказнік выдзяляецца лагічна і перад ім існуе працяглая паўза, тады ставіцца працяжнік: *Жанчына — невысокага росту* (Кузьма Чорны). *Яна — у квяцістай сукенцы* (І. Грамовіч).

7. Калі выказнік выражаны прыметнікам, займеннікам або прэдыкатыўным прыслоўем без дзеяслова-звязкі, то паміж дзейнікам і выказнікам або іх групай (саставам) працяжнік не ставіцца: *Пасля дажджу паветра чыстае і празрыстае* (Якуб Колас). *Луг повен пчалінага гуду* (В. Каваль). *Задача не абы-якая* (І. Мележ).

Працяжнік ставіцца тады, калі выказнік выдзяляецца лагічна і перад ім ёсць працяглая паўза: *Радасць перамогі — самая шчаслівая* (Б. Мікуліч). *Выгляд — нічога* (Я. Брыль). *Лясок на ўзгорку — нішто сабе* (Якуб Колас).

8. Працяжнік не ставіцца, калі адзін з галоўных членаў сказа выражаны пытальным займеннікам, а другі — назоўнікам у назоўным склоне або асабовым займеннікам, напрыклад: *Хто ў лесе гаспадар?* (М. Ракітны). *Ён дык начальнік, а я хто?* (М. Лынькоў). *Скажы мне, хто твой сябар, і я скажу табе, хто ты* (Прыказка).

Калі ж галоўныя члены выражаны не пытальнікамі, а іншымі займеннікамі, то працяжнік паміж імі ставіцца або не ставіцца згодна з іх лагічным выдзяленнем у сказе: *Яна для нас усіх свая* (П. Галавач). *Я не абы-хто* (М. Лынькоў). Але: *І я — не ты* (І. Пташнікаў). *Вядома, для цябе яна цяпер — усё* (Я. Брыль). *Ён — нішто перад Яўхімам* (І. Мележ).

9. Калі дзейнік і выказнік выражаны колькаснымі лічэбнікамі, то паміж гэтымі членамі ставіцца працяжнік: *Чатыры і тры — сем. Тры ў квадраце — дзевяць. Пяць плюс пяць — дзесяць.*

Працяжнік таксама ставіцца, калі выказнік выражаны колькасным лічэбнікам (адным ці з залежнымі ад яго словамі), а дзейнік — назоўнікам або займеннікам: *Ён — адзін. Узрост — пяць гадоў. Адлегласць — два кіламетры.*

Калі ж выказнік выражаны парадкавым лічэбнікам, то працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам ставіцца або не ставіцца згодна з іх лагічным выдзяленнем у сказе: *Я — дванццаты. Выпадак — трэці.* Але: *Дзень шосты. Яна заўсёды першая. Наша хата дзесятая ад канца сяла.*

10. Паміж дзейнікам і выказнікам (або іх групамі ці саставамі) заўсёды ставіцца працяжнік, калі яны выражаны інфінітывам: *Жыць — радзіме служыць* (А. Куляшоў). *Гаспадарку весці — не лапці плесці* (І. Гурскі). *Уцякаць — сораму набрацца* (Якуб Колас).

Ставіцца працяжнік, калі выказнік выражаны інфінітывам, а дзейнік — назоўнікам, займеннікам або субстантываваным прыметнікам у назоўным склоне і наадварот: *Алеся — бегчы* (П. Трус). *Гурбы — не ўзабрацца* (С. Шушкевіч). *Вунь ужо снегу колькі, я санкі з гарышча здыму, а ты — хварэць* (Я. Брыль). *Галоўнае — не хваляваціца* (М. Лынькоў). *Жыць — нішто сабе* (В. Каваль).

Калі дзейнік выражаны інфінітывам, а выказнік — прэдыкатыўным прыслоўем на -а, то працяжнік паміж імі ставіцца або не ставіцца згодна з іх лагічным выдзяленнем у сказе: *Працаваць — цяжка, нясцерпна пячэ сонца* (М. Машара). *Хавацца — брыдка: могуць падумаць, што Мікола нечага баіцца* (П. Пестрак). *Навучыцца іграць — нялёгка* (З. Бядуля). Але: *Жыць у зямлянцы нязручна* (Кузьма Чорны). *Праз гэты двор прайсці прыемна* (Якуб Колас).

11. Калі выказнік выражаны выклічнікам, тады паміж ім і дзейнікам звычайна ставіцца працяжнік: *Надвор'е — ай-яй-яй!* (Якуб Колас). *Ураджай сёлета — ого!* (Т. Хадкевіч).

У тых выпадках, калі ролю выказніка выконваюць дзеясловы-выклічнікі, а абазначанае ім дзеянне характарызуецца адценнем нечаканасці і падкрэслена лагічна, паміж дзейнікам і выказнікам ставіцца працяжнік: *Лабановіч — скок на ганак* (Якуб Колас). *Вочкі ў Піліпа — лып-лып* (М. Лынькоў). *Ён — бултых у ваду* (І. Грамовіч). *Казёл — бац вайка рагамі* (А. Якімовіч).

Калі ж дзеяслоў-выклічнік не мае адцення нечаканасці і лагічна не выдзяляецца, то паміж дзейнікам і выказнікам працяжнік не ставіцца: *З гуменца бацька шусь у хату* (Якуб Колас). *Я тым часам шмыг за дзверы* (З. Бядуля). *Засунеш руку ў нару, а рак цап за пальцы кляшнёй* (М. Лынькоў).

12. Калі выказнік далучаецца да дзейніка (або іменная частка састаўнога выказніка да дзеяслова-звязкі) пры дапамозе параўнальных злучнікаў-часціц, то знакі прыпынку паміж дзейнікам і выказнікам ці асобнымі часткамі састаўнога выказніка не ставяцца: *Жыта як сцяна* (І. Навуменка). *Яны быццам родныя* (М. Лынькоў). *Лета было як лета* (М. Стральцоў).

Калі ж параўнанне дзейніка і выказніка падкрэслена з асаблівай сілай, тады паміж імі ставіцца працяжнік: *Час — як плынь рачная* (А. Зарыцкі). *Для мяне Азорыч — быццам брат* (П. Глебка). *Ліпа — нібы цёмная хмара за іхнім гумном* (Я. Брыль). *Воблакі — нібы залочаныя чаўны* (А. Звонак).

Аднак пры адваротным размяшчэнні дзейніка і выказніка працяжнік паміж імі не ставіцца: *Як граблі мазолістыя рукі* (Якуб Колас). *Як камень стала зямля* (М. Зарэцкі).

13. Калі выказнік далучаецца да дзейніка пры дапамозе часціц або злучнікаў-часціц **і, ды, ці, дык** і інш., то знакі прыпынку паміж гэтымі членамі не ставяцца: *А ён ці механік* (П. Галавач). *Я то зраблю, але ты?* (Кузьма Чорны). *Яна дык можа добрая* (Я. Брыль).

Але калі галоўныя члены раз'яднаны працяглай паўзай і адзін з іх выдзяляецца лагічна і сваім зместам супярэчыць або абмяжоўвае змест другога, то паміж імі ставіцца працяжнік: *Андрэй — і не знае* (П. Пестрак). *Машына — ды не новая* (М. Паслядовіч). *Я — ды каб тачкі вазіць?* (П. Галавач). *Мы — дык не работнікі* (Х. Шынклер). *Пан — ды будзе з мазалямі хадзіць* (Змітрок Бядуля).

14. Калі выказнік далучаецца да дзейніка пры дапамозе указальных слоў **гэта, гэта значыць, значыць, вось, вось што**, то перад гэтымі словамі заўсёды ставіцца працяжнік: *Жыццё — гэта мудрасць* (П. Галавач). *Хлеб — вось што галоўнае ў жыцці чалавека* (Якуб Колас).

**Заўвага.** Калі слова **гэта** выступае ў ролі дзейніка, то ў залежнасці ад яго лагічнага выдзялення працяжнік ставіцца або не ставіцца: *Неўзабаве ляжа зіма. Гэта — факт* (Б. Мікуліч). Але: *Гэта вельмі адказнае заданне* (М. Лынькоў).

15. У тых выпадках, калі выказнік выражаны асабовай формай дзеяслова або іншымі часцінамі мовы з дзеясловам-звязкай, паміж галоўнымі членамі ў сказе знакі прыпынку не ставяцца: *Шчасліваю доляй жыццё расцвіло* (М. Машара). *Дзед Юрка быў рыбак* (Якуб Колас). *Дні сталі спякотныя* (І. Шамякін).

Але пры наяўнасці асобай паўзы паміж дзейнікам і выказнікам ставіцца працяжнік:

калі супастаўленне выказніка з дзейнікам у сказе лагічна ўзмоцненае: *Стаячае балота — гніе* (І. Гурскі). *Мы — людзей прымалі ветла* (М. Лужанін). *Вочы — радасцю гараць* (А. Астрэйка). *Выгнуўся дугой у сетцы — сам шчупак* (А. Куляшоў). *Засталася нам — аб днях мінулых скруха* (П. Панчанка). *Ты — быў лесніком* (А. Куляшоў);

калі супастаўленне дзейніка і выказніка адной канструкцыі з дзейнікам і выказнікам другой канструкцыі больш узмоцненае: *Палявыя загоны павінны радаваць вока, дні — павінны прыносіць светлую радасць* (Кузьма Чорны). *Гэта ішла не ў міністраў гульня, гэта ішла — рэвалюцыя* (Міхась Чарот);

калі супастаўленне выказніка з дзейнікам ускладнена ўмоўна-выніковым адценнем: *Не гармоніст — не іграю* (Прыказка). *Не каўбаса — не пахне* (Прыказка). *Некуплёнае — не прадасца* (М. Лужанін).

16. Калі дзеяслоўны выказнік размешчаны пасля аднародных дзейнікаў, аддзеленых адзін ад другога коскай, то пры наяўнасці працяглай паўзы паміж гэтымі дзейнікамі і выказнікам ставіцца працяжнік (у такім разе лагічна выдзяляецца апошні з аднародных дзейнікаў): *Рып калёс, і хлебны пах зямлі, і гэты вечар — гаворыць мне аб шчасці чалавечым* (П. Панчанка). *Прагнаць коней на выган, падвечар зганяць табун да рэчкі, памагчы дзядзьку ўпраўляцца — было маім самым лепшым заняткам* (І. Грамовіч).

**Заўвага 1.** Пры адсутнасці паўзы паміж аднароднымі дзейнікамі і выказнікам працяжнік не ставіцца: *Цар, генералы і панства вяльможнае з крыкам і свістам спраўлялі банкет* (Янка Купала). *Верас, шышкі ды мох паляцелі з-пад ног* (А. Куляшоў).

**Заўвага 2.** Калі выказнік далучаецца да аднародных дзейнікаў пры дапамозе слова **такі**, то перад гэтым словам заўсёды ставіцца працяжнік: *Песні, рамансы, арыі з опер і аперэт — такі рэпертуар маладога спевака.*

Але калі дзеяслоўны выказнік размешчаны перад аднароднымі дзейнікамі, якія аддзелены адзін ад другога коскай, то пры наяўнасці працяглай паўзы паміж гэтымі дзейнікамі і выказнікам звычайна ставіцца двукроп'е (у такім разе лагічна выдзяляецца выказнік): *У цяньку пад дрэвам сядзелі: Іліко, Вано і стары Тапурыя* (Э. Самуйлёнак). *Чакаюць вестак: аграном, пілот, вадзіцель за рулём, у белым кіцелі марак, вучоны, школьнік і рыбак* (М. Лужанін). *На плошчы размясціліся: школа, сельсавет, пошта, прадуктовы і прамтаварны магазін, чайная, малочны завод* (І. Дуброўскі).

17. Калі дзеяслоўны выказнік раскрывае змест пытальных часціц **як, што**, размешчаных пры дзейніку, тады ён аддзяляецца ад гэтых часціц пры дапамозе коскі: *Вы як, абедалі ўжо?* (І. Гурскі). *Што я, з ігрышча прыйшоў?* (П. Броўка). *Ты што, перапалохаўся?* (М. Лынькоў). *Як там яны, змарыліся?* (Якуб Колас).

18. Паміж дзейнікам і выказнікам ставіцца працяжнік, калі выказнік выражаны фразеалагічным зваротам або сінтаксічна непадзельным спалучэннем слоў і лагічна выдзяляецца ў сказе: *Поле — вокам не абняць* (А. Русак). *Возера — рукою падаць* (Я. Скрыган). *Хлопец — так сабе* (М. Лынькоў). *Выгляд — нічога асаблівага* (У. Краўчанка). *Вуліца — даўжынёй каля вярсты* (Кузьма Чорны). *Дзядзька — добрай душы чалавек* (Якуб Колас).

Але калі выказнік у сказе лагічна не выдзяляецца, тады паміж ім і дзейнікам працяжнік не ставіцца: *Міхалка цяпер сам не свой* (Кузьма Чорны). *Яны з мухі слана зробяць* (В. Вітка).

19. У тых выпадках, калі выказнік выражаны сінтаксічна непадзельным спалучэннем слоў у форме аднасастаўнага або двухсастаўнага сказа, паміж дзейнікам і выказнікам заўсёды ставіцца працяжнік: *Надвор'е — хоць з хаты не вылазь* (Якуб Колас). *Хата — толькі вайкоў ганяць* (Прыказка). *Вуліца — быццам толькі падмялі* (Кузьма Чорны).

20. У спасылках працяжнікам аддзяляецца дзейнік ад выказніка, які тлумачыць яго змест і мае любую форму выражэння, напрыклад: *А ф р а д з і т а — у грэчаскай міфалогіі багіня кахання і прыгажосці.* Параўн.: *К л а в і р — маецца на ўвазе пералажэнне оперы для фартэпіяна.*

# Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

БУКВАР — кніга для пачатковага навучання грамаце і развіцця мовы. Назва ўтварылася, верагодна, ад літар стараславянскага алфавіта *букі* і *веди*. Адзін з самых першых «буквароў» знойдзены ў старажытным Бярэсці. Гэта самшытавы грэбень XII — XIII стагоддзяў з выразаным на ім алфавітам.

Наш славуты асветнік і гуманіст Францішак Скарына ў прадмове да сваёй — першай на ўсходнеславянскіх землях — Бібліі пісаў: «Хочешь ли уметь граматику, или по-руски говоря, грамоту, которая хорошо читать и говорить учит, найдешь в полной Библии Псалтырь, читай ее». Таму ён, выдаючы ў Празе ў 1517 г. Псалтыр, незразумелыя словы тлумачыў у прыпісках «на боцех» — на палях.

Для лепшага разумення і запамінання Ф. Скарына ілюстраваў загалоўныя літары тэкстаў, прыкладам, побач з літарай л даваўся малюнак лёну. Гэтая асаблівасць Скарынавых кніг выкарыстоўваецца і ў сучасных букварах.

Першую «Азбуку» выпусціў у Львове ў 1574 г. славуты маскоўскі першадрукар, наш зямляк Ioannes Theodori de Phyetkowycze, вядомы ўсяму свету як Іван Фёдараў. Затым у Вільні ў друкарні братоў Мамонічаў выйшлі буквар «Начало учения детем» (1593) і азбука братоў Зізаніяў «Наука ку читаню и розумению писма словенского» (1596). У 1618 г. у друкарні святадухаўскага віленскага брацтва быў надрукаваны «Буквар», а ў 1631 г. у друкарні Куцеінскага манастыра каля Оршы — «Буквар» С. Собаля. Наш зямляк Сімяон Полацкі склаў «Буквар» (надрукаваны ў Маскве ў 1679 г.), па якім вучыліся дзеці царскай сям'і, у тым ліку і малалетні Пётр I.

Вучоныя сцвярджаюць, што з канца XVI да сярэдзіны XVII стагоддзя на Беларусі выйшла 16 буквароў — больш як палавіна падобных выдадзеных на ўсходнеславянскіх землях. З канца XVII ст. да пачатку XX ст. буквары на беларускай мове не выходзілі. «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» быў выдадзены ў 1906 г. у Пецярбургу суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца». Мяркуюць, што яго склалі К. Каганец і В. Іваноўскі.

*Паводле* **М. Г. ЯЛЕНСКАГА.**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## у пытаннях і адказах

### Чым славуты Ян Кароль Хадкевіч?

Ян Кароль Хадкевіч (1560—1621) быў адным з самых славутых гетманаў Вялікага Княства Літоўскага. Вайсковую чыннасць пачаў удзелам у задушэнні бунту Налівайкі (1596), які з аддзелам казакаў рабаваў гарады на Беларусі. Ад пачатку вайны са шведамі змагаўся ў Інфлянтах, дзе ўтрымліваў войска на ўласны кошт. У 1601 годзе разграміў шведаў пад Какенгаўзэнам, у 1604 — пад Белым Каменем, дзе з 2 тысячамі жаўнераў разбіў 7 тысяч непрыяцеля.

Найвялікшую ж славу Хадкевічу прынесла бітва пад Кірхгольмам (цяпер Саласпілс у Латвіі), дзе ягоны 4-тысячны корпус 27 верасня 1605 года дазвання разграміў 14-тысячную шведскую армію, страціўшы ўсяго блізу 100 сваіх жаўнераў. З гэтым вялікапышным трыумфам віншавалі гетмана еўрапейскія манархі і сам папа Павел V. Па якім часе пра бітву пад Кірхгольмам пісалі, што нашчадкі будуць хутчэй дзівіцца гэтаму трыумфу, чым верыць у яго.

У 1611 годзе ён ужо вёў харугвы на Маскву ў падмогу абложаным там сілам Вялікага Княства Літоўскага. У 1617—1618 гадах быў фактычным кіраўніком апошняга маскоўскага паходу. Прызначаны начальнікам войска Вялікага Княства і Польшчы, у 1621 годзе пад Хоцінам мусіў з 70 тысячамі супрацьстаяць утрая большай ардзе туркаў ды татараў — і здабыў бліскучую перамогу. Слаўны сын быхаўскай галіны роду Хадкевічаў па смерці стаў узорам самаахвярнасці і патрыятызму.

Пра вялікую папулярнасць яго ў народзе, мабыць, найкрасамоўней сведчыць тое, што дзеці тады гулялі ў ваенныя гульні, героем якіх быў Ян Хадкевіч.

**Генадзь САГАНОВІЧ.**

### Чым вызначыўся Януш Радзівіл?

Найвышэйшы гетман і віленскі ваявода Януш Радзівіл (1612—1655) меў надзвычайны вайсковы талент і быў гарачым прыхільнікам незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага. Яшчэ ў маладосці ў Вільні ў прысутнасці манарха кінуў польскім сенатарам: «Прыйдзе час,— паны-палякі да дзвярэй не патрапяць: праз вокны іх выкідваць будзем». Ужо ў 1649 годзе ён стаў шукаць кантакту са Швецыяй у мэтах умацавання пазіцый Вялікага Княства. Яшчэ будучы палявым гетманам, князь Януш паспяхова правёў свае першыя кампаніі супраць казацкіх аддзелаў, якія засылаліся Багданам Хмяльніцкім на Беларусь. У 1649 годзе пад Лоевам ён разграміў 15-тысячнае казацкае злучэнне палкоўніка Крычэўскага, праз два гады паканаў войска Нябабы ды заняў Кіеў. Між тым украінскія казакі тады былі магутнай вайсковай сілай. Нездарма ж яны шматкроць дазвання разбівалі польскую армію.

З пачаткам маскоўскай агрэсіі ў 1654 годзе на Янушу як найвышэйшым гетмане трымалася абарона ўсёй краіны. Маючы толькі 10 тысяч жаўнераў, ён мусіў стрымліваць наступ ледзь не 100-тысячнай арміі Маскоўскай дзяржавы. Першую вялікую бітву з ворагам у жніўні пад Шкловам выйграў, але па якім часе атачаны пад Шапялевічамі пацярпеў паразу — першую паразу ў сваім жыцці. Страціўшы надзею абараніць дзяржаву, у кастрычніку 1655 года Януш Радзівіл у Кейданах падпісаў пагадненне са Швецыяй, разлічваючы такім шляхам надалей бараніць нашу Бацькаўшчыну ад польскай экспансіі і агрэсіі з боку Масквы. Але давесці да канца распачатую справу яму не ўдалося, бо неўзабаве ён памёр (паводле некаторых звестак, быў атручаны).

**Генадзь САГАНОВІЧ.**

### Якая мова была сродкам дыпламатычных дачыненняў ва Усходняй Еўропе даўней?

Як і ва ўсёй Еўропе, на Беларусі дзеля дыпламатычнага ліставання з іншымі дзяржавамі карысталіся лацінскаю мовай. Аднак у дачыненнях з суседнімі краінамі гэтую ролю выконвала беларуская мова.

У самім Вялікім Княстве Літоўскім беларуская мова была не толькі моваю асноўнага народу гэтае дзяржавы, не толькі дзяржаўнаю моваю, але і моваю міжэтнічных дачыненняў. Ёю сумовіліся летувісы (жамойты), габраі, татары, расейцы-стараверы, цыганы.

У часы Сярэднявечча, напрыклад, Малдова і Валахія (сучасная Румынія) у дзяржаўнай дыпламатычнай перапісцы карысталіся афіцыйнаю моваю Вялікага Княства Літоўскага, г. зн. беларускаю (дарэчы, іхныя манархі, як і нашыя, называліся гаспадарамі). Ведалі беларускую і карысталіся ёю людзі з маскоўскага Пасольскага прыказу, службоўцы канцыляры нямецкага вялікага магістра з Рыгі. Пасля таго як каралём Польшчы стаў беларускі князь Ягайла, у значнай ступені беларускамоўным зрабіўся кракаўскі каралеўскі двор Польшчы. Польская і расейская сталіцы вялі перапіску між сабой па-беларуску. Калі ў 1646 годзе польскія дыпламаты скіравалі маскоўскім ліст па-польску, тыя рашуча запатрабавалі пісаць, як «издавна повелось», па-беларуску. Такім чынам, беларуская мова была моваю міждзяржаўных дачыненняў, міжнароднаю моваю.

**Вінцук ВЯЧОРКА.**

### Хто вынайшаў шматступеневую ракету?

У 1650 годзе ў сталіцы Нідэрландаў Амстэрдаме, славутым асяродку рамёстваў, гандлю і кнігадрукавання, пабачыла свет кніга «Вялікае мастацтва артылерыі». Напісаў яе на лаціне — мове тагачаснай навукі — наш суайчыннік (як ён называў сябе, «шляхціч-ліцьвін з Вялікага Княства Літоўскага») Казімір Семяновіч. Нарадзіўся ён на Віцебшчыне ў пачатку XVII стагоддзя.

Кнігу К. Семяновіча з вялікай зацікаўленасцю і ўвагай сустрэлі ў Еўропе. На працягу больш як паўтара стагоддзя яна была найбольш грунтоўнай і аўтарытэтнай працай па артылерыі і піратэхніцы, перавыдавалася на французскай, нямецкай, англельскай ды іншых еўрапейскіх мовах. У прадмове да англельскага выдання 1729 года ёсць красамоўнае сведчанне: «Аўтарытэт К. Семяновіча быў і да сённяшняга дня застаецца для ракетчыкаў і феерверкераў нечым святым».

У адрозненне ад піратэхнікаў-рамеснікаў свайго часу К. Семяновіч быў сапраўдным піратэхнікам-вучоным, у сваёй працы абапіраўся на апошнія, найноўшыя дасягненні тагачаснай навукі, на выніку ўласных эксперыментаў. Ён зрабіў шэраг цікавых, перспектыўных вынаходак. Гэта і стабілізатар тыпу «дэльта», і арыгінальныя канструкцыі ракет, у тым ліку і шматступеневай.

Такім чынам, даўняя спрэчка пра тое, хто вынайшаў шматступеневую ракету — расейскі вучоны К. Цыялкоўскі, бельгійскі інжынер Р. Бінг ці амерыканскі вучоны Р. Годард — развязваецца для многіх нечакана: канструкцыю такой ракеты больш чым за 250 гадоў да іх апісаў у сваёй кнізе беларускі вучоны Казімір Семяновіч, паклаўшы гэтым важкую цагліну ў падмурак будучага ракетабудавання.

Дарэчы, варта адзначыць, што К. Семяновічу, прафесійнаму вайскоўцу, быў уласцівы гуманістычны светапогляд: войны ён лічыў найвялікшым няшчасцем для чалавецтва.

Пакінуў ён гэты свет, напэўна, неўзабаве пасля выхаду французскага выдання сваёй кнігі ў 1651 годзе. Што сталася прычынаю смерці, невядома. Ці памёр ён ад якой хваробы, ці загінуў падчас доследаў з выбуховымі рэчывамі — пэўна сказаць немагчыма.

**Міхась ТКАЧОЎ.**

# ЗАЧАРАВАНАСЦЬ МАТЧЫНАЙ МОВАЙ

***Гутарка з прарэктарам па навучальнай працы Беларускай акадэміі мастацтваў, прафесарам А. А. Калядой***

**— Андрэй Андрэевіч, некалькі гадоў назад Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут стаў Беларускай акадэміяй мастацтваў. Ці можна цяпер ужо гаварыць аб сапраўды нацыянальнай беларускай навучальнай установе?**

— Напачатку хочацца звярнуць увагу на тое, што Акадэмія мастацтваў стала адной з першых навучальных устаноў Беларусі, якая чатыры гады назад, калі толькі пачыналася беларусізацыя і рыхтаваўся Закон аб мовах, прыняла праграму, якая прадугледжвала пераход нашай ВНУ на беларускую мову навучання. Праграма разлічвалася на тры гады. Мы знайшлі фінансавыя магчымасці, каб арганізаваць курсы па вывучэнню беларускай мовы для выкладчыкаў, а пазней — нават для лабарантаў і майстроў. На сённяшні дзень на родную мову ў нас перакладзена ўся дакументацыя, акрамя фінансавай справаздачнасці. У абодвух карпусах нашай установы ўся наглядная агітацыя зроблена таксама па-беларуску. Яшчэ ў 1990 г. мы ўвялі абавязковы ўступны экзамен па беларускай мове і літаратуры. Пры гэтым былі ўлічаны правы тых абітурыентаў, хто прыехаў да нас з іншых рэспублік і не вывучаў беларускую мову: яны здавалі экзамен па рускай мове і літаратуры.

**— Ці былі ўнесены ў навучальны план істотныя змены і ці з'явіліся новыя дысцыпліны з пераводам Вашай установы на беларускую мову навучання?**

— Безумоўна, пачалі чытацца большыя па аб'ёму курсы беларускай мовы і літаратуры. У праграме з'явіўся беларускі фальклор, было адведзена больш гадзін на гісторыю Беларусі. Дарэчы, мы першая з навучальных устаноў, якая ўвяла гэтую дысцыпліну ў лік абавязковых. Праўда, на кафедры грамадскіх дысцыплін узніклі цяжкасці з выкладаннем прадметаў на беларускай мове. Але гэта — з'ява часовая.

**— Вядома, што тэатральны факультэт выпускае акцёраў і рэжысёраў. Цікава было б даведацца, што робіцца ў Акадэміі, каб заўтра са сцэны наша мова гучала прыгожа? Як вучаць студэнтаў гаварыць на сцэне так, каб яны выклікалі ў аўдыторыі зачараванасць матчынай мовай?**

— Гэтая праблема была і застаецца вострай. Але не варта лічыць, што яна невырашальная. Той кантынгент маладых людзей, якія прыходзяць да нас у Акадэмію, мае невялікае дачыненне да беларусістыкі. Ні сям'я, ні школа ў гэтым плане ці не працавалі зусім, ці працавалі недаравальна мала. У Акадэміі навучанне сцэнічнай мове вядзецца ўсе чатыры гады. Гэтым займаецца кафедра майстэрства акцёра. У хуткім часе мы плануем аб'яднаць яе з кафедрай рэжысуры. У перспектыве ж, магчыма, з'явіцца і самастойная кафедра сцэнічнай мовы і пластыкі. На кафедры распрацаваны дзве праграмы: адна па сцэнічнай мове, другая па асновах майстэрства вуснай мовы. Нядаўна ўпершыню на Беларусі ў выдавецтве «Вышэйшая школа» выпушчана наша з кандыдатам мастацтвазнаўства Альбінай Аляксандраўнай Шагідзевіч кніга «Сцэнічная мова». Яна ўключае цікавы матэрыял для студэнтаў не толькі Акадэміі мастацтваў, але і іншых творчых навучальных устаноў. Усе выкладчыкі сцэнічнай мовы працуюць з беларускім матэрыялам. Але гэта не значыць, што мы цалкам выключылі замежную класіку або рускі матэрыял. На занятках па майстэрству акцёра студэнты ставяць урыўкі з розных п'ес. Напрыклд, на цяперашнім выпускным курсе будзе пастаўлена па адным спектаклі на рускай мове і па тры спектаклі на беларускай. Дарэчы, днямі мае адбыцца прэм'ера «Старыя жарты на свежай саломе», якая створана паводле беларускіх казак, анекдотаў і жартаў. Рэжысёр-пастаноўшчык — Генадзь Давыдзька, акцёр і рэжысёр Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Янкі Купалы. Ён выкладае майстэрства акцёра і сцэнічную мову на гэтым курсе.

**— У перыядычным друку неаднойчы абмяркоўвалася пытанне культуры вуснай мовы ў тэатрах Беларусі. Але ж у тэатр акцёры прыходзяць з Акадэміі?**

— Навучыць гаварыць са сцэны па-беларуску можна толькі тады, калі чалавек хоць крыху думае па-беларуску. А паколькі асяроддзе вакол нашых студэнтаў найбольш рускамоўнае, і ў перапынках яны самі часта збіваюцца на рускую мову, то сцвярджаць, што мы дасягнулі значных поспехаў, пакуль што нельга. Але ў спектаклях большасць нашых студэнтаў ужо гавораць па-беларуску, а не на нейкай «трасянцы».

**— А калі, напрыклад, ставіцца спектакль па раманах Івана Мележа?**

— Калі ж ставіцца нейкі спектакль, дзе падзеі адбываюцца ў пэўным рэгіёне Беларусі, то рэжысёр-пастаноўшчык разам з акцёрамі вывучае дыялектныя асаблівасці мовы гэтага рэгіёна. Я сам раней быў заняты ў спектаклі «Людзі на балоце» і хачу сказаць, што Іван Паўлавіч Мележ неаднойчы прысутнічаў на рэпетыцыі і звяртаў увагу акцёраў на дыялектныя асаблівасці палескіх гаворак.

**— Ці маеце Вы кантакты з Маскоўскай ці Санкт-Пецярбургскай тэатральнымі школамі?**

— Сувязі ёсць, а кантакты самыя найлепшыя, пра якія можна гаварыць. Яшчэ з 1969 г. мы супрацоўнічаем па ўдасканаленні выкладання сцэнічнай мовы. А. А. Шагідзевіч, якая працуе ў нас, закончыла аспірантуру ў доктара мастацтвазнаўства, прафесара школы-студыі МХАТ Ганны Мікалаеўны Пятровай. У нас добрыя паразуменні таксама з тэатральнымі школамі іншых гарадоў Расіі і Украіны.

**— І ўсё ж, ці надыдзе час, калі з Беларускай акадэміі мастацтваў будуць выходзіць высокапрафесійныя акцёры і рэжысёры, для якіх беларуская мова будзе сапраўды родная?**

— Катэгарычнага сцвярджэння ці адмаўлення на Ваша пытанне не будзе, але засведчыць тое, што ў Беларускай акадэміі мастацтваў для гэтага ўжо нямала зроблена, я магу з поўнай адказнасцю.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**



# Віншуем!

*4 снежня спаўняецца 50 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага паэта, намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» Казіміра Камейшы. Віншуем Казіміра Вікенцьевіча з юбілеем, жадаем творчага неспакою, плённага натхнення і поспехаў на ніве беларушчыны.*

*Казімір КАМЕЙША*

## Маё пяро

Пяро маё,
Чарнічны пушчы налет
Цябе вітаў з чарнільнага радка.
Пяро маё,
Цябе аднойчы нават
Змушалі прыраўняцца да штыка.

Я ж выкраў цябе некалі ў аблокаў,
Каб прышчапіць пярынкай да зямлі.
У цёплую галінку з Налібокаў
Цябе перарадзіцца я маліў.

Блакіт маіх азёр ты ўпадабала
І тым блакітам напісала ты
Лісты да ўсіх,
з кім пушча нас яднала,
І да нябёс блакітныя лісты.

Ты ў поўны лёт з крылом сваім ляцела,
І хоць трыбун бунтоўны прадракаў,
Штыка радней ты быць не захацела
І нават ценем войнага штыка.

Калі табой вадзіў,
ты мне ўсміхалася,
Працягам ты рукі маёй было.
Пяро маё,
Ты да штыка не прыраўнялася,
Вярнулася ты ў птушчына крыло.

## Восеньскі матыў

Той бераг заламаны пакруглеў.
Вачам тваім аж весела праз гэта.
У жорава — зазімак на крыле,
А пад крылом чужое дрэмле лета.

Ён з пералётных птушак, як і ўсе,
Не сціснуты дугой берагавою,
Як ты, мая палонніца, са мною:
Адно крыло прымлела пад страхою,
Другое — уцякачкай на страсе.

Ды не ўцячы табе з адным крылом.
Наш круглы бераг не асірацее.
Чужая птушка просіцца ў наш дом
Пад золкай дажджавою ліставеяй.

Цыганства столькі ў познім тым лісці,
Аж жах даймае доўгімі начамі.
А нітка лёсу тоненька трымціць
Паміж двумя крутымі берагамі.

## Прадчуванне

Што прыгорбіўся ты
На гарыстым уздыме?
Чвэрць апошняй вярсты —
У тумане і дыме.

Гора даўняга горб
Цісне долу памалу,
Цісне долю ці мала.
Недзе ў чэраве гор
Дрэмле чорная магма.

Калі грымне яна
Над айчынным пагостам,
Нават стогн твой пазнаць
Будзе ўнуку няпроста.

Калі выбухне ён,
Той вулкан старадрэмны,
Слухаць даўні мой стогн
Будзе, мабыць, дарэмна.

Крэмнем ранне гарыць,
І вулкан той я чую.
Дрэмле ён у гары,
А ў душы ён бушуе.

## Гузак

Ходзіць важна, як гусак,
Не бярэ кілішка.
Ён па-нашаму — гузак,
А па-руску — шышка.

Сеў ні дзе — на галаве
І адтуль ківае.
Ён відзён самой Маскве,
Як картуз здымае.

Хоць народжан — божа мой! —
Ад якойсьці бэлькі,
Ды ў Варшаве у самой,
Як прыкленчыць, — велькі.

А ўстае з нагі не той,
Лае, бэсціць гурт наш.
Ён па-нашаму — ніхто,
А па-польску — гуўнеш.

# «КАЛАСАВІНЫ»

30 кастрычніка ўдзельнікаў традыцыйнага літаратурнага свята «Каласавіны» Стаўбцоўская зямля вітала не па-восеньскі цёплым надвор'ем. У Акінчыцах, ля хаты, дзе 111 гадоў назад нарадзіўся славуты паэт, шаноўных гасцей хлебам-соллю сустракалі самадзейныя артысты народнага тэатра «Полымя» Стаўбцоўскага ГДК. Чароўныя радкі з паэмы «Новая зямля», 70-годдзю выдання ў свет якой прысвечаны сёлетнія «Каласавіны», цёплыя ўсмешкі цешылі сэрцы прысутных. Кожны лічыў за гонар пакланіцца тым мясцінам, адкуль праляглі жыццёвыя шляхі-дарогі паэта.

Драўляныя скульптуры з вобразамі герояў твораў Якуба Коласа абапал шашы Стоўбцы — Мікалаеўшчына, пастаці Міхала, дзядзькі Антося, маці паэта на «Сцяжыне навазямельцаў», што месціцца ўздоўж ляснай дарогі ў накірунку мемарыяльнай сядзібы Альбуць, вярталі ўдзельнікаў свята ў тыя даўнія часы, што яскрава апісаны паэтам у яго славутай паэме «Новая зямля». У некалькіх кіламетрах ад Альбуці, на хутары Смольня госці наведалі мемарыяльную хату, куды пасля турэмнага зняволення ў 1911 годзе прыязджаў Якуб Колас, азнаёміліся з літаратурнай экспазіцыяй музея, карціннай галерэяй самадзейных мастакоў Стаўбцоўшчыны.

Пасля ўскладання кветак да помніка Якубу Коласу ў вёсцы Мікалаеўшчына свята працягвалася ў маляўнічым куточку ўрочышча Прыстанька. Тут, на лясістым беразе Нёмана, непадалёку ад вёскі Мікалаеўшчына, 9 ліпеня 1906 г. адбыўся нелегальны з'езд настаўнікаў, актыўны ўдзел у якім прымаў і Якуб Колас. Пасля зацяжнога судовага працэсу паэт 3 гады адбываў пакаранне ў Менскім астрозе, дзе і былі напісаны асобныя раздзелы паэмы «Новая зямля». У гэты дзень яшчэ адна мясціна, звязаная з імем Якуба Коласа, была адзначана мемарыяльным знакам. Адкрыў яго нястомны прапагандыст творчай спадчыны паэта загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама Грэкаў Анатоль Васілевіч. З словамі пра Якуба Коласа, славутую паэму «Новая зямля» выступілі паэты П. Макаль, А. Камароўскі, Я. Хвалей, А. Рыбак, С. Белы, дырэктар музея З. Камароўская, дырэктар Мікалаеўскай школы А. Каменка.

У святочным канцэрце прынялі ўдзел народная агітбрыгада «Гавязнянка» Вішнявецкага СДК, народны фальклорны калектыў «Каласавы зямлякі» вёскі Мікалаеўшчына.

Працягвалася свята «Каласавіны» 3 лістапада, у дзень нараджэння Якуба Коласа, у музеі песняра ў Менску. Тут адбылася навуковая канферэнцыя з нагоды 70-годдзя паэмы «Новая зямля». З грунтоўнымі даследаваннямі, новым трактаваннем паэмы выступілі навукоўцы з усіх абласцей рэспублікі. У гэты дзень удзельнікамі канферэнцыі, гасцямі свята былі ўскладзены кветкі да помніка Якубу Коласу на плошчы яго імя.

НА ЗДЫМКУ: адкрыццё мемарыяльнага знака.

З. САЛАЎЕВА.



### Чыталі?

ПОШУКІ
І ЗНАХОДКІ
Ў СТАРЫМ МІРЫ

«Наша праца — спроба комплекснага даследавання аднаго са старажытных паселішчаў, якое ў сярэднявеччы вырасла да памераў невялікага горада. Мір набыў вядомасць на Беларусі і далёка за яе межамі дзякуючы добра захаванаму архітэктурнаму шэдэўру — мураванаму замку канца XV — пачатку XVI ст.» — так пачынаецца ўступ да кнігі «Стары Мір», якую напісалі Галіна Якшук і Аляксандр Краўцэвіч. Кніга складаецца з чатырох раздзелаў. У раздзеле «Жыццё прыватнага горада» змешчаны артыкулы «У віры падзей», «Эканамічная і сацыяльная дзейнасць міран». У раздзеле «Тапаграфія і архітэктура паселішча» — «Развіццё планіроўкі», «Архітэктура і абарончыя збудаванні». Раздзел «Матэрыяльная асяроддзе сярэднявечнага міраніна — рэчы побыту і працы» складаецца з артыкулаў пра металічныя вырабы, кераміку і вырабы са шкла, косці, каменю. У дадатку чытач мае магчымасць пазнаёміцца са скарбамі манет, якія былі знойдзены ў пасёлку Мір.

У кнізе на аснове архіўных пошукаў, натуральных абследаванняў архітэктурных помнікаў і шматгадовых археалагічных раскопак узнаўляецца аб'ёмная карціна жыцця невялікага сярэднявечнага горада, якім быў Мір.

Кніга «Стары Мір» разлічана на гісторыкаў, архітэктараў, краязнаўцаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

Н. К.

### Рупліўцы

# Да каранёў сваіх

Верхнядзвінская раённая рада ТБМ трымае цесныя сувязі з многімі грамадскімі арганізацыямі і ўстановамі, найперш з турысцка-краязнаўчым клубам «Шукальнік», клубамі «Белыя вароны», «Кругагляд», раённым Домам культуры, бібліятэкамі. Усе яны аб'яднаны вялікай мэтай Адраджэння.

6 лістапада, у памінальную суботу, у вёсцы Каханавічы адзначалася 100 год з дня смерці вядомага асветніка і фалькларыста Ігната Храпавіцкага. Гэту вечарыну можна назваць падзеяй выключнага значэння. Справа ў тым, што І. Храпавіцкі пры жыцці быў мясцовым памешчыкам. І хаця ў народзе аб ім захаваліся добрыя ўспаміны, «перабудоўшчыкі жыцця» — камуністы пастараліся зрабіць усё, каб выкрасліць гэта імя з гісторыі.

Святу яго адраджэння папярэднічала вялікая работа. Сельскай бібліятэкай і школай былі сабраны архіўныя і літаратурныя матэрыялы, успаміны мясцовых жыхароў, а юнакі з клуба «Белыя вароны» нанова паставілі на магілу вучонага гранітную пліту, якая была выкінута ў свой час за агароджу могілак.

Урачыстая вечарына, на якую сабраліся дарослыя і дзеці, госці і Верхнядзвінска і Асвеі, прайшла пры свечках. Выступаючыя заклікалі земляков актыўна ўключыцца ў справу Адраджэння. Актуальна прагучалі радкі з верша І. Храпавіцкага, надрукаванага калісьці ў першым нумары часопіса «Рубон»: «...Мёртвы сон... Нашто ж чакаць?»

У сяброў клуба «Белыя вароны» ёсць канкрэтныя планы па аднаўленні разбураных помнікаў і вяртанні забытых імёнаў. Зараз яны займаюцца разбуранай магілай святароў колішняй Каханавіцкай царквы, а кіруе работай няўрымслівы прэзідэнт клуба — галоўны ўрач мясцовай бальніцы Пётр Квяцінскі.

Дарэчы, дзякуючы арганізатарскаму таленту Пятра Пятровіча і яго шырокім сувязям з цікавымі людзьмі, вечарына памяці ў Каханавічах завяршылася сольным канцэртам вядомага тэнара, заслужанага артыста рэспублікі Уладзіміра Вепрыка, які спецыяльна прыехаў да нас з Менска. Яму акампанавала на фартэпіяна выкладчыца Асвейскай музычнай школы Ірына Герасіменка.

А. БУБАЛА.

г. Верхнядзвінск.

